# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 5 (180)
травень 2017



Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:






Шаноўнае спадарства!

Працягваецца актыўная падрыхтоўка да Сёмага з'езда беларусаў свету МГА "ЗБС "Бацькаўшчына", які адбудзецца ў Мінску 15–16 ліпеня гэтага года. Працоўная група па падрыхтоўцы З'езда займаецца дэталізацыяй праграмы, вырашае шматлікія арганізацыйныя і тэхнічныя пытанні па правядзенні гэтага буйнога міжнароднага мерапрыемства, а таксама распрацоўвае праекты выніковых дакументаў.

Заклікаем тых, хто атрымаў запрашэнне, як найхутчэй адгукнуцца, каб пацвердзіць свой удзел, а таксама паведаміць пра патрэбу ў гатэлі і дапамогу ў афармленні візы (калі плануеце прыехаць болей, чым на 5 дзён, і/ці не самалётам).

Калі вы не з'яўляецеся сябрам Згуртавання "Бацькаўшчына", але жадаеце ўзяць удзел у З'ездзе ў якасці госця, паведаміце нам пра гэта на электронны адрас zbsb.minsk@gmail.com.

Дзеля максімальнага ўключэння ў выніковыя дакументы З'езда меркаванняў беларусаў замежжа, Управа ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да вас з просьбай незалежна ад фармальнага сяброўства ў нашай арганізацыі запоўніць адмысловую АНКЕТУ на сайце zbsb.org – выказаць прапановы і пытанні, скіраваныя да беларускай дзяржавы і да грамадскасці, акрэсліць найбольш важныя для вас праблемы з практыкі ўзаемадзеяння з дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

салідарнасць

# НІНА ШЫДЛОЎСКАЯ ЗАКЛІКАЕ НЕ СПЫНЯЦЬ ДАПАМОГІ СЕМ'ЯМ ПАТРЫЁТАЎ

"Беларуская вясна" прынесла яе ўдзельнікам сотні прысудаў на штрафы і суткі. Аднак 14 патрыётаў застаюцца за кратамі, ім пагражаюць сур'ёзныя тэрміны зняволення.

"Жыццё сем'яў арыштаваных патрыётаў няхутка стане ранейшым. Некаторыя з сем'яў засталіся без кармільцаў. Гэта жонкі з малымі дзецьмі, у тым ліку на здымных кватэрах. Падчас вобшукаў былі забраныя ўсе назапашаныя сямейныя грошы. І іх ніхто не збіраецца вяртаць.

На плечы вытанчаных жанчын і бацькоў ва ўзросце, акрамя болю, гора, хваляванняў, леглі яшчэ і трыццацікілаграмовыя перадачы. А сем'ям трэба і самім неяк жыць, і дзетак сваіх карміць-апранаць.

І я звяртаюся да ўсіх, хто толькі можа мяне пачуць: не спыняйце матэрыяльнай дапамогі сем'ям, бо ім без нашай дапамогі, яшчэ і ў стане псіхалагічнага прэсінгу з усіх бакоў, самім справіцца немагчыма. А спадзяванняў на хуткае вырашэнне справы, улічваючы яе палітычную матываванасць, пакуль мала, – гаворыць Ніна Шыдлоўская, грамадскі прадстаўнік сем'яў затрыманых. – Звяртаюся да кожнага: дапамагайце выстаяць сем'ям у гэтым пякельным палітычным «марафоне». А саміх арыштаваных патрыётаў варта падтрымліваць, дасылаючы ім лісты і паштоўкі".

«Справа патрыётаў» – крымінальная справа супраць былых чальцоў арганізацыі «Белы легіён», актыўных удзельнікаў спартова-патрыятычнага клубу «Патрыёт», грамадскіх актывістаў. Па стане на пачатак чэрвеня 2017 года па «справе патрыётаў» праходзіць 33 чалавекі, з іх 14 знаходзіцца пад вартай у Следчых ізалятарах КДБ і №1 г. Мінска. 19 затрыманых выпушчаныя з-пад варты пад падпіску аб нявыездзе і неразгалошванні.

Каб даведацца, якім чынам дапамагчы іх сем'ям, а таксама, куды пісаць кожнаму з затрыманых патрыётаў, дастаткова зайсці на адмысловую старонку газеты "Новы час": http://novychas.by/patrjoty/dapamoha

**Паводле газеты "Новы час"**




## Кампанія па зборы сродкаў для падтрымкі арыштаваных і іх сем'яў

Грошы неабходныя на адвакатаў, а таксама сем'ям затрыманых, якія з-за ператрусаў і арыштаў засталіся без сродкаў існавання. Гарантаваныя празрыстасць і мэтавасць выкарыстання.

Грошы можна перавесці альбо перадаць наступным чынам:

- Асабіста Nina Shydlouskaya альбо на яе картку Беларусбанк толькі ў беларускіх рублях 4255190182607666 (тэрмін дзеяння па 07/19 на імя Nina Shydlouskaya), e-mail: pamazhy2017@gmail.com).
- Асабіста сем'ям арыштаваных (пішыце асабістыя пведамленні pamazhy2017@gmail.com, каб даведацца, каму на той момант дапамога будзе больш неабходная).

навіны "Бацькаўшчыны"

# ЗМІЦЕР БАРТОСІК – ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ ІМЯ АЛЯКСАНДРА І МАРЫІ СТАГАНОВІЧАЎ

У Мінску прайшло ўручэнне прэміі ў галіне "непрыдуманай" літаратуры. Першае месца атрымаў бард і журналіст Зміцер Бартосік.

Гісторыя паўстання прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў неаддзельная ад іхніх лёсаў. Паводле гісторыка беларускай эміграцыі і старшыні журы прэміі Наталлі Гардзіенка, гэта лёсы тыповыя для XX стагоддзя: "Аляксандр быў сябрам «Грамады», паслом Сойма, пяць год правёў у польскай турме, пасля вайны яго чакала эміграцыя ў ЗША. Там Стагановіч быў сябрам Рады БНР. Ягоная жонка Марыя займалася творчай працай і брала актыўны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары".

Пра ўспаміны Аляксандра і Марыі доўгі час ніхто не ведаў, пакуль дачка Тамара не наважылася іх надрукаваць. Наступным крокам было заснаванне прэміі, якая мае матываваць беларусаў да стварэння літаратуры ў жанры нон-фікшн. Сярод сузаснавальнікаў прэміі – ЗБС "Бацькаўшчына" і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

"Існуе дастаткова прэміяў, заснаваных беларускай дыяспарай, – кажа Алена Макоўская, старшыня Згуртавання. – Прэмія Зоры Кіпель за беларусазнаўчыя даследаванні, прэмія імя Барыса Кіта для журналістаў і літаратараў, літаратурная прэмія імя Янкі Юхнаўца ды інш. Калі прэмія, заснаваная за мяжой, уручаецца ў Беларусі, мы бачым, як пашыраецца наша агульная культурная і нацыянальная прастора".



Выступае кіраўніца ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская.

Барыс Пятровіч, старшыня СБП, адзначыў, што яшчэ пяць год таму аўтараў непрыдуманай літаратуры не лічылі пісьменнікамі. Нават Алексіевіч было цяжка: у Саюз яе прымалі як аўтарку кінасцэнароў і нарысаў, дзякуючы падтрымцы Брыля і Адамовіча. Але пасля яе Нобеля ўжо не трэба нікому нічога даводзіць.

Конкурс на сёлетнюю прэмію пачаўся ў кастрычніку 2016-га. Было пададзена каля 30 твораў, з якіх у кароткі спіс трапіла сем аўтараў: Зміцер Бартосік, Вітаўт Кіпель, Наталля Міцкевіч, Міхась Скобла, Мікалай Улашчык, Яўген Ціхановіч і Сяргей Чыгрын.

Трэцяе месца атрымаў Сяргей Чыгрын за кнігу "На радзіме Ігната Дварчаніна", з апісаннем сваіх краязнаўчых вандровак у Дзятлаўскім рэгіёне.

Другое месца атрымала кніга Вітаўта Кіпеля "Жыць і дзеяць". Патрыярха беларускай эміграцыі, на жаль, не было на ўручэнні.

Першае месца атрымаў Зміцер Бартосік з кнігай "Быў у пана верабейка гаварушчы…". Бібліёграф Валер Герасімаў, які агучваў імя намінанта, назваў выданне "малой падарожнай кнігай нашага часу". На жаль, самога аўтара ў зале не было, таму прэмію атрымаў рэдактар – Сяргей Дубавец. "Аўтар творыць, а працуе ж рэдактар, таму гэта вельмі правільна, – з іроніяй паставіўся да такога павароту Дубавец. – Чалавек, калі нараджаецца, крычыць. Калі памірае – у яго крычыць душа. Крыкі душы, якія енчылі семдзесят гадоў, Бартосік выцягнуў, атрымалася. Людзі расказалі яму тое, што за ўсё жыццё не маглі сказаць нікому. Гэта капітальна страшная кніга, поўная жахлівых фактаў, якія адбываліся ў XX ст. Але чамусьці прачытваеш і адкладаеш яе з уражаннем, што напоўніўся нечым светлым. Мабыць, таму, што гэтыя крыкі не маюць ісці на нябёсы, а маюць заставацца тут, на зямлі".

Напрыканцы Наталля Гардзіенка падзякавала ўсім прысутным, нагадаўшы, што спрабуе абвергнуць тэзу Янкі Запрудніка аб тым, што беларусы не ўмеюць дзякаваць. Асобныя падзякі і цёплыя словы гучалі на адрас гісторыка Лявона Юрэвіча, а таксама Марыны Шыбко і Аляксандра Фядуты, высілкамі якіх паўстала "Беларуская мемуарная бібліятэка", у якой былі надрукаваныя як успаміны Стагановічаў, так і безліч іншых твораў "непрыдуманай" літаратуры.

**Алесь Кіркевіч, фота Аляксандра Кісялёва**

гутарка

# “БЕЛАРУСЫ Ў ЗША” ВІТАЎТА КІПЕЛЯ

У серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” пабачыла свет другое выданне кнігі патрыярха беларускай эміграцыі на Захадзе Вітаўта Кіпеля “Беларусы ў ЗША”. Кніга ў больш як 600 старонак багата ілюстраваная, дапрацаваная і дапоўненая новай інфармацыяй з улікам апошніх двух дзясяткаў гадоў, што мінулі ад часу яе першага беларускага выдання ў 1993 г.

*Падрыхтоўка другога выдання заняла каля двух гадоў супольнай працы самога Вітаўта Кіпеля, архівіста Лявона Юрэвіча і маёй як рэдактара. Гэтае выданне стала асабліва важным для мяне як магчымасць выказаць павагу і падзяку чалавеку, якога бязмежна паважаю як асобу, як даследчыка, як беларуса.*

*Яшчэ ў часе нашага працоўнага спаткання з Вітаўтам Кіпелем у снежні 2016 года, калі абмяркоўваліся дапаўненні і ілюстрацыі, я задала яму колькі пытанняў у сувязі з новым выданнем.*

**Наталля Гардзіенка: Як узнікла ідэя напісаць кнігу пра беларусаў у ЗША?**

**Вітаўт Кіпель:** Ідэя кнігі ўзнікла бадай з першага дня, як я прыехаў у Амерыку. Гэта былі каталіцкія Каляды 1955 года. Праз дзень ці два я пайшоў рэгістравацца ў бюракратычныя амерыканскія ўстановы і зразумеў, што чыноўнікі нічога не ведаюць пра беларусаў. Тады я скіраваўся ў бібліятэку, каб там нешта знайсці апублікаванае пра амерыканскіх беларусаў, і нічога не знайшоў. І я вырашыў, што трэба зрабіць адмысловую кнігу. Вось так думка нарадзілася, але было невядома, як яна рэалізуецца.

Хутка мне давялося выехаць у Балтымар і іншыя гарады працаваць, было вяселле, з’явіліся дзеці, але думку пра кнігу тым часам я не пакідаў, бо нідзе не мог знайсці публікацый пра беларусаў Амерыкі, і мяне гэта, прызнацца, злавала. Справа ў тым, што калі я прыехаў у ЗША і жыў некаторы час у Пасэйку (Нью-Джэрсі), дзе мае бацькі былі ад 1949 года, дык там беларуская мова была і каля царквы, і ў крамах, і асабліва каля гэтак званых “польскага народнага дома” і “рускага народнага дома”. Я бачыў, што беларусаў шмат, але пра іх нідзе не напісана. І гэта ўмацавала мяне ў думцы, што беларусы мусяць напісаць пра сябе самі, распавесці пра сябе амерыканцам.

З цягам часу гэты намер умацоўваўся, і калі я затрымаўся на працу ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы, то цвёрда вырашыў пачаць. У бібліятэцы былі даступныя газетныя матэрыялы, кнігі, і я стаў па кроплях збіраць матэрыял у розныя папкі пра “прыезд”, “пачаткі” і г.д. У часе збірання звестак пра людзей, якія прыехалі ў ЗША на пачатку XX стагоддзя, я ўбачыў, што яны былі далёка не першыя, а значна раней сюды таксама прыязджалі нашыя людзі. І тады кніга пашырыла першапачатковую задуму апісаць толькі эміграцыю ад пачатку XX ст. Я пайшоў у ранейшае, паўстала пытанне, а калі ж вестка пра Амерыку трапіла да нас у Беларусь, калі мы даведаліся пра Амерыку. Гэтак ішло пашырэнне ўжо самой тэмы. Вось так паступова і паўстала кніжка.

Дарэчы, я ад самага пачатку пісаў па-ангельску, бо думаў, што для Амерыкі гэтая кніга найбольш патрэбная, менавіта тут варта сказаць, што былі беларусы. Але потым змяніліся абставіны, і ў пачатку 1990-х гадоў з’явіўся добра падрыхтаваны перакладчык Сяргей Шупа, дзякуючы якому першым пабачыла свет менавіта беларускае выданне, у ЗША кніга выйшла ў 1999 годзе. Я быў вельмі задаволены, што якраз на Бацькаўшчыне кніга была ўпершыню апублікаваная.

**НГ: Былі іншыя беларусы, зацікаўлены ў тым, каб нешта збіраць пра суродзічаў у Амерыцы, ці гэта выключна Вашая ініцыятыва?**

**ВК:** Першы артыкул пра беларусаў Амерыкі аўтарства Сцяпана Бубешкі быў апублікаваны, здаецца, у 1921 годзе ў Вільні. Думаю, што былі і іншыя людзі, якія збіралі звесткі. Але сабраць матэрыял на кнігу, напэўна, у людзей проста не хапала цярпення, бо гэта нялёгкая справа, калі сапраўды нічога няма. Прыпушчаю, што ініцыятары, ахвотнікі былі, можа, у нейкіх архівах мы і знойдзем штосьці, але ніхто нічога большага не напісаў.

**НГ: Вашая кніга ў Беларусі ў 1993 г. стала адметнай з’яваю…**

**ВК:** Так, я быў вельмі задаволены з гэтага выдання. Я шмат ездзіў тады па Беларусі і, прыкладам, прыходзіш у раённую бібліятэку і бачыш, што там кніжка ёсць. Асабліва мне спадабалася падарожжа. Мы затрымаліся ў Дукоры, бо ехалі на нейкую імпрэзу, арганізаваную Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва, Ганнай Запартыкай. І ў Дукоры мяне паклікалі ў бібліятэку выступіць, бо яны ведалі і мелі маю кнігу. Гэтак было і ў Слуцку, і ў Магілёве… гэта было прыемна.

**НГ: “Беларусы ў ЗША” некалі сталі своеасаблівым пачаткам навуковага эміграцыязнаўства ў Беларусі. У 1990-х гадах пайшоў працэс “адкрыцця” эміграцыі з боку метраполіі, нарадзілася вялікая цікавасць, пачалі з’яўляцца тэксты, прысвечаныя беларускай эміграцыі. І сёння ўжо багата, пра што напісана. Якія тэмы цяпер варта вывучаць у першую чаргу ў дачыненні да беларускай эміграцыі?**

**ВК:** Гэтая кніга сапраўды была першая даследчага профілю. Дзіўная была з’ява. Я прыязджаў на Бацькаўшчыну амаль кожны год. Людзі ў Беларусі ведалі, што суродзічы выязджалі на эміграцыю, галоўным чынам у Амерыку. Мала хто чуў, што ехалі ў Аўстралію, ці ў Францыю, ці ў Нямеччыну, а пра Амерыку кожны грамадзянін ведаў, але нічога не пісалася.

Пасля набыцця незалежнасці, пасля 1990-х гадоў, вельмі моцнае пачалося такое збіранне камянёў, з’явіліся артыкулы і працы пра беларусаў Сібіры, беларусаў у Аўстраліі, Вялікабрытаніі. Думаю, што ў Еўропе трэба прысвяціць кнігі і Нямеччыне, і Італіі, і Францыі. І з цягам часу, напэўна, гэта будзе зроблена. Але мне здаецца, трэба, каб гэта ўсё ішло сістэматычна. Краіна сама павінная ведаць, што адток гэткай колькасці насельніцтва ўплываў і на развіццё краіны, і на эканамічнае, і на нацыянальнае і іншае жыццё. І гэта ўсё павінна вывучацца. Мы не ведаем, колькі людзей выехала. Адны кажуць, мільён, другія – каля мільёна. Дакладна мы не ведаем. Але ж недзе статыстыка ёсць, яе трэба шукаць. Павінная быць нейкая ўстанова, інстытуцыя, якая будзе сістэматычна даследаваць эміграцыю з Беларусі. Іншыя народы, прыкладам, ірландцы, італьянцы, ведаюць, колькі ў іх з’ехала, які гэта мела ўплыў на эканоміку, на развіццё Бацькаўшчыны, і запісваюць сабе ў актыў тое, што іх эмігранты зрабілі для сусветнай эканомікі, навукі, мастацтва. А ў нас ніхто нічога асабліва не ведае. Выязджалі людзі, і мы маем прыклады, што дасягнулі вялікіх пазіцый, пасадаў у адміністрацыях розных краінах. І не толькі мы, і яўрэйства трэба ўлічыць як частку беларускай нацыі, бо выязджалі яны з нашай тэрыторыі, гаварылі яны пабеларуску, мелі з сабою тыя самыя баранкі і мяхі праз плячо. Гэта была беларуская эміграцыя. Мае быць установа, якая б гэта ўсё вывучала, бо эміграцыя працягваецца, працэс не скончыўся. Колькі на сёння выязджае? Дзясяткі тысяч. Гэта ж ставае дэмаграфічны дэфіцыт, бо калі выязджае маладая пара, іх дзеці будуць для Беларусі фактычна страчаныя. І гэта ўсё трэба вывучаць.






***Другое выданне “Беларусаў у ЗША” пабачыла свет да 90-х угодкаў аўтара, дзеля адзначэння якіх плануецца таксама арганізацыя віртуальнай (на сайце Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва) і рэальнай (у Мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”) выставаў. Адкрыццё апошняй – у ліпені гэтага года, у часе З’езду беларусаў свету – плануецца з удзелам дачкі Вітаўта Кіпеля Алесі. Тады ж адбудзецца і прэзентацыя гэтай кнігі.***

Наталля Гардзіенка

навіны

# Беларуская абшчына Малдовы адзначыла 135-годдзе Янкі Купалы і Якуба Коласа

26 траўня Беларуская абшчына Малдовы сумесна з Беларускім культурным цэнтрам Малдовы правялі вечар, прысвечаны 135-годдзю народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Члены абшчыны і госці паглядзелі фільм пра класікаў беларускай літаратуры. Затым паэты Вера Сугак і Сяргей Якімаў прачыталі свае вершы на беларускай мове.

Старэйшына абшчыны, ветэран Вялікай айчыннай вайны В.У. Вайцяховіч прачытаў некалькі вершаў Якуба Коласа, а паколькі мерапрыемства праходзіла ў рамках Дзён славянскага пісьменства і культуры, то выступілі і госці – рускія паэты Святлана Вакарава і Святлана Гарнастай, а таксама Юрый Дулгеру, які прачытаў вершы на балгарскай мове.

Пушкініст Віктар Кушнярэнка распавёў пра сувязь творчасці А. Пушкіна з творчасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа, Любоў Бурлак праспявала душэўную ўкраінскую песню, а ўсе прысутныя пад гітару праспявалі



"Мы беларусы" і "Вы шуміце, бярозы".

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел старшы саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова А.С. Істомін, а таксама жонкі Надзвычайных паслоў Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Балгарыі.

**Старшыня Рускай абшчыны РМ Л.А. Лашчэнава**

# Дзень памяці Еўфрасінні Полацкай адзначылі ў Мадрыдзе

Пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Каралеўстве Іспанія 27 траўня ў Мадрыдзе адбылося мерапрыемства на беларускай мове "Паралелі гісторыі: Мадрыд–Беларусь", прысвечанае заканчэнню першага акадэмічнага курса беларускай мовы, арганізаванага ў Мадрыдзе на базе Вучэбнага моўнага цэнтра "Лінгваландыя".

Ідэя і арганізацыя мерапрыемства належыць Ларысе Малышавай, якая правяла незвычайнае падарожжа ў мінулае, абмяркоўваючы гістарычныя паралелі: што было ў Мадрыдзе і што у той жа час адбывалася ў Беларусі. Члены беларускай дыяспары і іспанскія грамадзяне, зацікаўленыя ў беларускай мове і гісторыі, размаўлялі пра Полацкае княства, Вялікае Княства Літоўскае, Рэч Паспалітую, езуітаў у Беларусі і Напалеона.

Вера Кухарава падрыхтавала храналагічнае падарожжа па найважнейшых датах у існаванні Вялікага Княства Літоўскага.

Святлана Яськова, член Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь, нагадала, што 2017 год аб'яўлены ў Беларусі Годам навукі, які праходзіць яшчэ і пад знакам Францыска Скарыны.

Перакладчыца Людміла Несцер падкрэсліла неабходнасць ушанавання памяці апякункі беларускай зямлі Еўфрасінні Полацкай напярэдадні 5 чэрвеня, які лічыцца Днём памяці першай беларускай жанчыны, прылічанай да ліку святых.

**Людміла Несцер**

# У Ялце на магіле Багдановіча гучалі вершы на беларускай і ўкраінскай мовах

100-годдзе з дня смерці Максіма Багдановіча адзначылі мітынгам-рэквіемам у Ялце 25 траўня. На магіле паэта сабралася каля паўсотні чалавек.

Афіцыйную імпрэзу зладзіла Беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія Крыму. Прысутнічалі беларускі ксёндз Даніла Сваяк, які цяпер служыць у Сімферопалі, і крымская беларускамоўная пісьменніца Аліса Бізяева.

Выступіў Пётр Якубук, мастак, ювелір, старшыня беларускага таварыства Ялты. Ён адзначыў, як шмат у Крыме людзей беларускага паходжання: "У нас можна рабіць секцыю беларускіх мастакоў".

Віталь Бартосаў, Сяргей Кандыбовіч, Раман Чагрынец – людзі, якія рэпрэзентуюць культурную аўтаномію беларусаў Крыму.




"Светлы ж след будзе вечна жывым", – гэтыя радкі падхапілі некалькі прысутных.

Юры Касмынін: "У кожнага народа ёсць чалавек, які ёсць увасабленнем народнай памяці. І гэты чалавек – Максім Багдановіч".

Кіраўніца этнаграфічнага музея ў Алушце Людміла Анішчанка прачытала па-ўкраінску свой верш, прысвечаны Максіму Багдановічу.

Даніла Сваяк, беларускі ксёндз-пробашч каталіцкай парафіі Сімферопаля: "Мова для людзей, якія жывуць далёка ад радзімы, гэта сувязь са сваімі каранямі. Багдановіч лічыў мову скрыпкай беларускай. Але тут сабраліся людзі пад сцягамі, пад якімі Багдановіч не паміраў".

Крым міжнародна прызнаны акупаванай Расіяй тэрыторыяй Украіны.

**КВ, "Радыё Свабода"**

навіны "Будзьма!"

## "Шоў Беларушчыны" ў Дзяржынску

1 траўня ў парку Дзяржынска адбылося "Шоў Беларушчыны", прысвечанае 500-годдзю беларускага кнігадруку. Мерапрыемства адбывалася на вольным паветры і было разлічана на разнастайную аўдыторыю. Найактыўнейшыя атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма!".

## "Дзеяслоўцы" – у ліцэі БДУ

3 траўня ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!" адбылася сустрэча паэтаў Усевалада Сцебуракі і Анатоля Івашчанкі з навучэнцамі гуманітарных класаў Ліцэя БДУ. Госці распавялі пра дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў, часопіс "Дзеяслоў", кампанію да юбілею беларускага кнігадруку "Пяцісотгоднасць" а таксама сваімі новымі творамі. Акрамя таго Анатоль Івашчанка прэзентаваў некалькі кавераў з Анталогіі перакладу расійскай рок-паэзіі. Слухачоў цікавіў шырокі спектр тэмаў – ад варыянтнасці правапісу ў беларускай мове да мажлівасцяў маладых аўтараў самарэалізавацца ў сённяшніх культурніцкіх варунках. Самыя актыўныя ўдзельнікі гутаркі атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" і часопіса "Дзеяслоў". Госці атрымалі ў падарунак прыгожыя кубкі з лагатыпам Ліцэя.

## "Любімыя песні Скарыны" ў Беразіно

3 траўня ў Бярэзінскай дзіцячай школе мастацтваў адбылася сустрэча "Любімыя песні Францыска Скарыны" з удзелам Юрыя Несцярэнкі і Рамана Яраша. Гучалі песні на тэксты беларускіх паэтаў, а таксама каверы і пераклады з расійскай, латышскай, ангельскай моваў. Паміж песнямі ўдзельнікі чыталі фрагменты прадмоваў Скарыны да кніг Бібліі ў перакладзе на сучасную беларускую мову Алеся Разанава. Вучні і настаўнікі школы узялі ўдзел у віктарыне, прысвечанай жыццю і творчасці першадрукара, атрымалі сувеніры й прызы ад кампаніі "Будзьма!".

## Прэзентацыя ў мястэчку гістарычнай Меншчыны

4 траўня ў межах кампаніі "Будзьма!" і акцыі "500-годнасць" Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі наведалі мястэчка Ілля. У сярэдняй школе імя Адама Грымаца адбылася прэзентацыя "Смачнай кнігі" Аксаны Спрынчан. Слухачы слухалі вершы і цешыліся, калі за адгадкі загадак атрымлівалі прызы ад кампаніі "Будзьма!". Вучні дружна спявалі разам з Ярашам Малішэўскім песні. Госці пазнаёмілі навучэнцаў з праектам "500-годнасць". Школа наладзіла для гасцей экскурсію па школьных музеях, якіх установа адукацыі мае два: этнаграфічны і літаратурны. Апошні існуе 25 гадоў і мае званне народнага. Другая сустрэча адбылася ў Іллянскім дзяржаўным аграрным каледжы, дзе творцы сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі. Слухачы цёпла сустрэлі вершы Аксаны Спрынчан, уразіліся гукамі жалейкі і басовай дудкі. Абедзве імпрэзы адбыліся дзякуючы запрашэнню Уладзіміра Кажамякі, якому быў уручаны падарунак ад кампаніі "Будзьма!". Аксана Спрынчан усклала кветкі Змітраку Бядулю, які навучаўся ў гэтым мястэчку.

## Паэтычны гасцінец Бярозаўшчыны

Антаніна Хатэнка і Алесь Камоцкі ў межах кампаніі 500-годнасць завіталі 15 траўня ў Бярозу. Падчас сустрэч у першай, другой і трэцяй школах гаворка вялася пра ўмельства красамоўцаў. Школьнікі, слухаючы песні, вершы, роздумы гасцей, падлучаліся да разваг пра мінуласць і будучыню, пра пошукі свайго месца і прызначэння ў жыцці. Яны гулялі ў гістарычна-філасофскую віктарыну, фармулюючы адказы на складанае запытанне-запа-

**гісторыя**

# ЯК ЗАМЕЖНЫЯ БЕЛАРУСЫ АДЗНАЧАЛІ 450-ГОДДЗЕ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

Да 450-х угодкаў выдання Скарынам першай кнігі беларускія эмігранты на Захадзе рыхтаваліся адмыслова.

17 верасня 1967 г. у Таронта высілкамі Згуртавання беларусаў Канады была адкрытая выстава, што аб'яднала дзве нагоды: угодкі беларускага друку ды 100-годдзе Канады. Былі прадстаўленыя больш за 60 экспанатаў: фатаграфіяў, рэпрадукцыяў, дрэварытаў, старадрукаў. У Манрэалі на выстаўцы ЭКСПО-67, у павільёне СССР, былі выстаўленыя два выданні Францыска Скарыны, што паходзілі з бібліятэкі колішняга Супрасльскага манастыра. Угодкі беларускага друку адзначаліся таксама ў амерыканскім Чыкага і аўстралійскім Сіднэі.

Але найбольшай падзеяй стала выстава "450 гадоў беларускага друку" ў Нью-ёркскай публічнай бібліятэцы. Арганізаваную ў супрацы з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва экспазіцыю ад 1 сакавіка да 29 ліпеня 1968 года маглі ўбачыць тысячы наведнікаў. Вось як апісваў гэта галоўны ініцыятар і стваральнік выставы Вітаўт Кіпель: "Размешчаная была выстаўка ў прасторнай галерэі другога паверху бібліятэкі. Экспанавала яна больш за 200 кнігаў, брашураў, часопісаў, партрэтаў, абразоў, картаў, гравюраў, фатарэпрадукцыяў беларускіх старадрукаў ды графічных іх аздобаў. Апрача трынаццаці вялікіх выставовых сталоўвітрынаў, экспанаты – найперш апраўленыя ў рамы пад шклом партрэты ды абразы – займалі і сцены галерэі. Усе вітрыны выстаўкі мелі свае паясняльныя, у ангельскай мове, даведкі, а ўсе экспанаты – бібліяграфічныя анатацыі".

Экспанаты рэпрэзентавалі ўласна Скарынавыя выданні, копіі дакументальных сведчанняў пра жыццё і дзейнасць першадрукара, друкі ягоных наступнікаў: Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага, і выданні з друкарняў Мамонічаў, Куцеінскага і Супрасльскага манастыроў. Вялікую частку выставы складалі ўзоры ўжо новага беларускага друку, пачынаючы ад канца XIX ст. Ад рэпрадукцыяў "Мужыцкай праўды" Кастуся Каліноўскага, арыгіналаў "Нашай долі" і "Нашай Нівы" да ўзораў выданняў 1920-1930-х гадоў, паваенныя БССРаўскія выданні дапаўняліся кнігамі і перыёдыкамі беларусаў з Польшчы, ЗША, Італіі, Канады, Нямеччыны і іншых краінаў. Прадстаўленыя былі




на выставе і скарыназнаўчыя працы.

Бібліятэка выдала прэс-рэліз і плакаты з выявай Францыска Скарыны. Інфармацыя дасылалася як па бібліятэках і навучальных установах ЗША, гэтак і ў замежжа. Каля 40 плакатаў былі скіраваныя ў БССР. Беларуская дзяржаўная бібліятэка імя Леніна даслала арганізатарам ліст падзякі, каля паўсотні новых беларускіх выданняў і просьбу даслаць каталог выставы. На жаль, праз фінансавыя складанасці каталог не быў выдадзены, аднак у інфармацыі па выніках выставы адзначалася: "Выстаўка "450 гадоў беларускага друку" паказанымі на ёй кнігамі, ілюстрацыйнымі экспанатамі ды дадзенымі інфармацыйнымі даведкамі, разгарнула перад гледачом яскравую шырокую панараму галоўных этапаў гісторыі беларускага друку ды дала добры аб'ектыўны абраз ягонага сучаснага стану. Водгукі на выстаўку з'явіліся ў друку амерыканскім, беларускім, славацкім, польскім, савецкім. Адцемленая яна была і ў радыёвых перадачах. Атрымала бібліятэка і шмат лістоўных водгукаў на выстаўку ад навуковых установаў і індывідуальных асобаў. Колькі ўніверсітэтаў ЗША ды еўрапейскіх звярнулася з просьбай даслаць каталогі выстаўкі і мікрафільмы скарынаведнае экспанаванае літаратуры.

Важна асаблівa тое, што выстаўка давала ўзоры ўсяе сучаснае беларускае выдавецкае прадукцыі [...]. Вядома, што пабачыць на публічным паказе падобны поўны абраз сучаснага беларускага друку ў сусветным разрэзе на беларускай зямлі сёння немагчыма. Вось гэта надае наладжанай на высокім акадэмічным узроўні выстаўцы беларускага друку Публічнай бібліятэкі Нью-Ёрку асаблівую гістарычную вымову і вагу".

Нью-ёркская беларуская выстава зачапіла прадстаўнікоў тагачаснага "рускага свету". Вось як пісаў пра гэта дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўт Тумаш: "Ад мінулага тыдня была наканец паведзеная вострая атака на выстаўку з боку старое расейскае чорнае сотні. Адным часам на рукі дырэктара [Бібліятэкі] было накіравана ці не паўтузіна лістоў з розных канцоў Нью Ёрку, тэма якіх адна (з чаго відаць, што акцыя арганізаваная), што выстаўка наладжаная "русафобамі", бо на інфармацыйнай картцы на 6-м стале гаворыцца пра нейкую "русыфікацыю" беларускай мовы за часоў царскіх, чаго ніколі ня было й не магло быць, бо як-жа можна русыфікаваць адзін з дыялектаў рускае якраз мовы!!! Адначасна аўтары лістоў уськідваюць Бібліятэцы й тое, як яна асмелілася выстаўляць "Беларускі праваслаўны каляндар" на 1968 г. "некананічнае" БАПЦ?

На атаку з гэтага боку мы даўно чакалі. Калі яна прыходзіць позна, дык гэта хіба таму, што сваёй саліднасцю й вялічынёй каля 200 самых беларускіх выстаўленых друкаў яна выбівае з рук старыя "казыры" і аргумэнты чорнае сотні – "няма беларускае мовы, няма беларускае літаратуры, няма беларускага народу" – гэта ўсё выдумкі сэпаратыстых. Прышлося шукаць іншых аргумэнтаў – і ў канцы знайшлі: "русафобы", бо нехта асмеліўся пісаць пра "русыфікацыю!" (1 чэрвеня 1968 г.).

Справа не абмежавалася скаргамі. Аднае раніцы на колькіх вітрынах з'явіліся налепкі з напісам "Русафобская выстава". Аднак, нягледзячы на гэтую актыўнасць, экспазіцыя не была згорнутая і працавала цягам усяго запланаванага часу. І дасёння Нью-ёркская публічная бібліятэка захоўвае найбуйнейшую ў Паўночнай Амерыцы калекцыю беларусікі, якая штомесяц папаўняецца.

**Наталля Гардзіенка**

трабаванне часу: як вярнуцца народу да народных вартасцяў, каб узняць нацыянальную годнасць. Гэтак 500-годнасць кнігадруку каторы ўжо раз нагадала здалёк, з паўтысячагадовай даўніны, пра жыццядайную любоў-ласку да гнёздаў, вулляў і віроў сваіх.

### 500-годнасць Аляксандра Тамковіча і яго сяброў

16 траўня на сустрэчу з журналістам і пісьменнікам Аляксандрам Тамковічам, а таксама з яго сябрамі – пісьменнікам і выдаўцом Уладзімірам Сіўчыкавым і спявачкай Тацццянай Грыневіч – прыйшлі студэнты і выкладчыкі (адна з іх, Аксана Барысевіч, была арганізатаркай імпрэзы) сталічнага Універсітэта трэцяга ўзросту. Уладзімір Сіўчыкаў расказаў пра сучасны стан беларускай літаратуры, пра юбілейны для беларускага кнігадруку год, а таксама чытаў свае творы. Аляксандр Тамковіч расказаў пра сваю кнігу "Філасофія дабрыні: ад катастрофы да сада надзеі", прысвечаную Чарнобыльскай трагедыі, і падзяліўся творчымі планамі. Упрыгажэннем імпрэзы сталі песні на словы Максіма Багдановіча, Уладзіміра Дубоўкі, Генадзя Бураўкіна і Сержука Сокалава-Воюша ў пранікнёным выкананні Тяцццяны Грыневіч.

### Трэцяя "Ратуша" ў Віцебску

18 траўня новы выпуск альманаха "Ратуша" быў прэзентаваны ў актавай зале Віцебскай абласной бібліятэкі. Перад публікай выступілі аўтары выдання і госці з Мінска. Адкрыла сустрэчу Настасся Лазебная – старшыня Віцебскага абласнога аддзялення ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" і рэдактарка альманаха. Выступіў намеснік старшыні ГА "СБП" Усевалад Сцебурака, які нагадаў пра кампанію "500-годнасць" і ўручыў пасведчанне сябра арганізацыі Міхаілу Конану. Выступілі аўтары "Ратушы": Марыя Баравік, Фелікс Бейнер, Алесь Замкоўскі, Віялета Зенчанка, Вальдэмар Калінін, Уладзімір Марудаў, Міхась Мірановіч, Уладзімір Папковіч, Аляксандр Пішчык, Наталля Салаўёва, Станіслаў Сівалобаў, Галіна Сінякова. Алесь Камоцкі праспяваў песні на словы Рыгора Барадуліна і прачытаў уласныя вершы.

### Свята паэзіі памяці Анатоля Сыса ў Гарошкаве

20 траўня ў вёсцы Гарошкаў (Рэчыцкі раён) у дванаццаты раз прайшло свята паэзіі памяці Анатоля Сыса. Мерапрыемства адбылося з ініцыятывы Саюза беларускіх пісьменнікаў і родных паэта. У Гарошкаў прыехалі літаратары і аматары паэзіі, сябры і родныя Сыса з Мінска, Гомеля, Рэчыцы і Светлагорска. Паэтычныя чытанні праводзяцца ў двары дома, дзе нарадзіўся і рос літаратар, з 2006 года. Старшыня СБП Барыс Пятровіч заўважыў, што прыемна бачыць кожны раз новых людзей, гэта значыць, што свята паэзіі жыве, як і памяць пра геніяльнага паэта. Ён падкрэсліў, што слабых вершаў у паэта не было, і што такіх сыноў, як Сыс, зямля рэчыцкая яшчэ, можа, не мела, і што ў хаце паэта трэба адкрыць музей. Паэт Алесь Ліпай прачытаў верш, які чытаў 12 гадоў таму пры апошняй сустрэчы з Сысам. Успамінамі пра адзіную сустрэчу з паэтам падзяліўся літаратурны крытык Ціхан Чарнякевіч. Загадчык кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф.Скарыны Іван Штэйнер параіў арганізатарам прыцягваць больш людзей. Яго калега Анжэла Мельнікава нагадала словы філосафа Валянціна Акудовіча пра тое, што па энергіі паэтычнага радку яму саступаць і Купала, і Багдановіч, а таксама зазначыла, што Сыс сярод студэнтаў філфака – любімы паэт і зараз. Апроч вершаў і ўспамінаў прагучалі песні ў выкананні Алеся Камоцкага і Змітра Захарэвіча.

**Болей навінаў на budzma.by**

меркаванне

# БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА: ШТО ЯНА МОЖА ДАЦЬ БЕЛАРУСІ

Цяперашні свет – гэта вялікая "глабальная вёска", розныя часткі якой усё шчыльней звязаныя паміж сабой.

Людзі ўсё болей пераязджаюць з краіны ў краіну, але характар міграцыі таксама змяніўся: дзякуючы новым камунікацыйным тэхналогіям чалавек можа пачувацца як дома ў любым месцы свету, дзе ёсць інтэрнэт. Пераезд у іншую краіну перастаў азначаць разрыў з радзімай: можна жыць за тысячу кіламетраў ад роднага горада, але быць у курсе мясцовых навінаў не нашмат горш, чым тыя, хто там застаўся жыць.

Больш за тое, камунікацыйныя і інфармацыйныя тэхналогіі робяць магчымым для краінаў узнавіць кантакты і пачаць працаваць са старой эміграцыяй і яе нашчадкамі – з людзьмі, што захавалі хаця б намінальную памяць пра месца свайго паходжання.

Беларусь не стаіць убаку ад актуальных міграцыйных працэсаў і ніколі не стаяла. Яна гістарычна была як краінай эміграцыі (пачынаючы з гвалтоўна пераселеных у сярэднявеччы ў Маскву рамеснікаў-ліцвінаў), так і прымальніцай мігрантаў (ад крымскіх татараў, габрэяў і расійцаў-старавераў у часы ВКЛ да армян і цэнтральнаазіятаў у савецкі час).

Таму Беларусь – і дзяржава, і грамадства – павінная дзейнічаць у адпаведнасці з выклікамі новага часу, каб найбольш эфектыўна выкарыстоўваць магчымасці, якія ён дае. Магчымасці гэтыя вельмі вялікія.

## Навошта дыяспара Беларусі

Беларусь – малавядомая ў свеце краіна. Пад цяперашняй назвай яна афармілася толькі стагоддзе таму, а трывала незалежнай стала толькі менш за 30 гадоў таму. Беларусі нашмат складаней, чым усім яе суседзям – Польшчы, Украіне, краінам Балтыі, – пазіцыянаваць сябе на міжнароднай арэне, заваёўваць месца ў розумах і ў карціне свету замежнікаў. Практычна гэта азначае, што Беларусь губляе грошы і магчымасці, бо ляжыць па-за сферай інтарэсаў міжнароднага бізнесу і турыстаў.

Але па-за Беларуссю ёсць вельмі шмат людзей, якія маюць з ёю гістарычныя сувязі. Яны патэнцыйна могуць дапамагчы Беларусі развівацца самой і развіваць свае сувязі з замежжам.

Гэтыя людзі за дзесяцігоддзі і пакаленні жыцця ў эміграцыі назапасілі вялікі прафесіянальны, рэпутацыйны, фінансавы капітал: нашчадкамі выхадцаў з Беларусі з'яўляюцца дзясяткі і сотні сусветна вядомых прадпрымальнікаў, навукоўцаў, палітыкаў, дзеячаў культуры ў ЗША, Расіі, Ізраілі, Вялікай Брытаніі, Польшчы і іншых краінах.

У ЗША гэта зяць цяперашняга прэзідэнта Джарэд Кушнэр, былы CEO Microsoft Стыў Балмэр (нашчадкі беларускіх габрэяў), саліст гурта Aerosmith Стыў Тайлер (продак – шляхціц з Бабруйска), дзясяткі прафесараў, спартоўцаў, прадпрымальнікаў, якія выехалі ўжо з незалежнай Беларусі.

У Расіі гэта алігархі Андрэй Мельнічэнка (нарадзіўся ў Гомелі) і Алег Дзерыпаска, рок-зоркі Андрэй Макарэвіч і Ілья Лагуценка, нобелеўскі лаўрэат Жарэс Алфёраў, некалькі былых губернатараў, зноў жа дзясяткі (сотні) прадпрымальнікаў, палітыкаў, дзеячаў культуры.

Беларусі было б выгадна мець іх як мінімум у якасці сваіх сяброў і саюзнікаў за мяжою. І гэта цалкам рэалістычна, бо людзі збольшага ведаюць пра свае карані, а часам і прыватна наведваюць Беларусь (як, напрыклад, сваякі Кушнэра і Балмэр). І таму гэтыя людзі павінныя быць прадметам беларускай дыяспарнай палітыкі.



Беларуская дыяспара, аб'яднанне выхадцаў з Беларусі, магла б утвараць глабальную сетку беларускага ўплыву, спрыяць падвышэнню вядомасці Беларусі, яе ўплыву і кантактам з найбольш багатымі і магутнымі замежнымі дзяржавамі.

## Беларуская дыяспара: спроба катэгарызацыі

Агулам структураваць беларускую дыяспару досыць складана, але на паверхні можна выдзеліць прынамсі наступныя групы, якія патэнцыйна былі б мэтавай аўдыторыяй для дыяспарнай палітыкі Беларусі:

1. Эмігранты з Беларусі: людзі, што самі пераехалі з Беларусі за мяжу.

2. Нашчадкі эмігрантаў у другім ці трэцім пакаленні.

3. Аўтахтоннае беларускае насельніцтва (строга кажучы, не дыяспара, а меншасці) у Падляшшы (Польшча), на Віленшчыне (Літоўская Рэспубліка), Смаленшчыне (Расія) і ў паўднёвай Латгаліі (Латвія). Мігранты адтуль і іхныя нашчадкі.

4. Беларускае габрэйства (Ізраіль, ЗША, Вялікабрытанія, Францыя). Адных толькі выхадцаў з Беларусі ў Ізраілі налічваецца да 200 тысяч. Але гэтая лічба тычыцца перадусім эмігрантаў савецкага і постсавецкага часу і не ўключае нашчадкаў мігрантаў XIX – першай паловы XX стагоддзяў, сярод якіх было нават некалькі прэзідэнтаў Ізраіля.

5. Беларускія палякі (Польшча, ЗША) – нашчадкі аўтахтонных мясцовых беларускіх каталікоў, чые продкі ідэнтыфікавалі сябе як палякаў і якія ў выніку перамяшчэнняў насельніцтва цягам XX стагоддзя апынуліся за межамі Беларусі.

У кожнай катэгорыі ёсць свае актывісты, свае арганізацыі, свае публічныя знакамітасці (не заўжды заангажаваныя ў "беларускую" дзейнасць публічныя асобы, але пра чые беларускія карані прынамсі вядома) – да ўсіх можна і трэба шукаць свой падыход.

Актыўная беларуская дыяспара, што аб'ядназая ў існуючыя арганізацыі, ладзіць мерапрыемствы, гэта толькі верхавіна гіганцкага айсберга. Але існуючыя арганізацыі – гэта вельмі важны плацдарм і рэсурс: гэта людзі, якія з'ехалі з Беларусі, але засталіся ёй максімальна лаяльнымі і самастойна падтрымліваюць беларускую культурніцкую прысутнасць у месцах свайго пражывання.

Многія дзесяцігоддзі структуры беларускай дыяспары фактычна былі нефармальнымі пасольствамі Беларусі ў краінах Захаду. Згуртаванне Беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне, Згуртаванне беларусаў Канады і многія іншыя арганізацыі шмат гадоў займаліся папулярызацыяй Беларусі, яе культуры і гісторыі, у сваіх краінах.

На жаль, з многімі такімі арганізацыямі афіцыйная беларуская ўлада пасварылася ў 90-я гады. Гэта было вялікай памылкай: структуры кшталту Рады БНР у выгнанні назапасілі за гады сваёй працы вялікі лабісцкі і рэпутацыйны капітал, які мог бы для маладой беларускай дзяржавы быць вельмі карысным. Краіны Балтыі, Польшча, Украіна шмат атрымалі дзякуючы выкарыстанню назапашанага дыяспарай палітычнага капіталу на Захадзе: згадаць хаця б маштаб дапамогі Украіне з боку Канады ў постсавецкія часы.

## Магчымыя мэты Беларусі адносна дыяспары: тактычныя і стратэгічныя

Зробім нашыя развагі яшчэ больш прадметнымі і паспрабуем канкрэтызаваць патэнцыйныя мэты Беларусі ў дачыненні да дыяспары. Гэткія мэты я б раздзяліў на тактычныя і стратэгічныя.

Тактычныя – гэта кароткатэрміновыя мэты, або мэты першага этапу, якія можна пачаць рэалізоўваць ужо цяпер. Іх цалкам магчыма ажыццявіць ужо ў агляднай перспектыве, калі беларуская дзяржава паставіць сабе такую задачу. У тактычныя мэты я б уключыў гэтыя:

– уцягванне максімальнай колькасці замежнікаў беларускага паходжання ў "арбіту" Беларусі: стымуляванне цікавасці да беларускіх каранёў і да мясцінаў паходжання ў Беларусі;

– стымуляванне генеалагічнага і рэлігійнага (перадусім, іўдзейскага) турызму ў Беларусь;

– стымуляванне ўдзелу ў беларускіх мерапрыемствах (арганізаваных амбасадамі і структурамі дыяспары) у краінах свайго пражывання.

Стратэгічныя мэты – гэта мэты, адпаведна, доўгатэрміновыя, своеасаблівы "план-максімум". Яны, магчыма, нават больш важныя для Беларусі, чым тактычныя, але і больш складаныя ў рэалізацыі. Пра іх дасягненне можна будзе разважаць толькі пасля таго, як будзе наладжаная базавая штодзённая праца з дыяспарнай аўдыторыяй. Умоўна кажучы, неабходна стварыць асяроддзе, "запусціць працэс", і толькі тады можна будзе імкнуцца да стратэгічных рэчаў, як:

– Прыцягненне інвестыцый, ведаў, кампетэнцый у Беларусь. Заангажаванне замежных беларусаў і нашчадкаў выхадцаў з Беларусі ў бізнесовых, адукацыйных і дабрачынных праектах у Беларусі, прыцягненне ў якасці экспертаў, лектараў і г. д. Працэс ідзе і без свядомага заахвочвання з боку дзяржавы: прадстаўнікі дыяспары самастойна аднаўляюць шляхецкія сядзібы, вяртаюць у Беларусь гістарычныя каштоўнасці. Гэта азначае, што калі дзяржава падключыцца да гэтага працэсу і прастымулюе яго, эфект можа быць большым.

– Узмацненне беларускага лабісцкага патэнцыялу ў замежных краінах – сувязяў і аўтарытэту Беларусі сярод асобаў, што прымаюць рашэнні ў палітыцы, бізнесе й грамадстве. Стварэнне кола людзей, лаяльных да Беларусі, з шэрагаў уплывовых нашчадкаў выхадцаў з Беларусі і, пад іхным уплывам, сімпатызантаў Беларусі.

Якія захады можна зрабіць для дасягнення спачатку хаця б тактычных мэтаў? Перадусім патрэбная дэталёвая і канкрэтная дзяржаўная стратэгія ў гэтым кірунку, распрацаваць якую неабходна ў супрацы з прадстаўнікамі дыяспары. Праца вялікая, але неабходная і вартая таго. Да гэтага пытання паспрабуем вярнуцца ў наступных тэкстах.

**Алесь Чайчыц, сакратар інфармацыі Рады БНР**

гутарка

# Юрась Шамецька: НАВАТ НЕ ГАВОРАЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ, НАШЫ ЛЮДЗІ АДЧУВАЮЦЬ ПАТРЭБУ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМІ

Беларускі паэт з Канады, падзяліўся з "Бацькаўшчынай" планамі што да сваёй новай кнігі, думкамі пра змены ў побыце мінчукоў, а таксама пра тое, як на яго паўплывала знаёмства з Івонкай Сурвіллай, і што ў жыцці нічога не бывае выпадкова.

**– Ці часта Вы бываеце ў Мінску?**

– Апошні раз быў два гады таму. Раней не адчуваў такой патрэбы, а цяпер адбылося нешта для мяне самога незразумелае. Можа гэта настальгія? Калі з'язджаў у Канаду, пра вяртанне не думалася, зрэшты як не мроілася, што праз пятнаццаць гадоў давядзецца чытаць на Радзіме вершы перад сваімі чытачамі.

**– А чым апроч імпрэзаў займаецеся, калі прыязджаеце?**

– У першую чаргу я прыязджаю да мамы і сваякоў. А ячшэ для мяне важны кантакт з горадам, дзе я нарадзіўся. Я за жыццё аб'ехаў шмат гарадоў і краінаў – меў вялікую цікавасць убачыць свет. Але энергетыка роднага гораду ўнікальная. Мінск вельмі адрозніваецца ад іншых гарадоў свету, мне цяжка гэта растлумачыць, але вельмі лёгка адчуць.

**– Як на Ваш погляд, за тыя пятнаццаць гадоў, што Вы адсутнічалі ў Беларусі, ці адбыліся тут істотныя змены? Якія з іх падаюцца Вам найбольш важнымі?**

– Мінск мяняецца... Пры гэтым застаецца такім, якім я яго ведаю. Мне не падабаецца, што ў Мінску за апошні час грамадства размежавалася паводле дастатку. Розніца вельмі выразная, мне гэта бачыць нязвыкла, бо ў Канадзе не прынята ганарыцца заможнасцю. Там людзі, якія шмат зарабляюць, сплочваюць вельмі вялікія падаткі. Таксама канадцы паважаюць асабістую прастору кожнага чалавека, што, уласна кажучы, і складае сутнасць свабоды. Канада – прыгожая і высока цывілізаваная краіна, у якой я пачуваю сябе ўтульна, годна і вельмі добра. Апынуўшыся ў Канадзе, я не страціў Беларусі, а наадварот, паглядзеў на Беларусь іншымі вачыма. А што да астатняга, дык усё, чаго Мінску зараз не хапае – гэта беларускамоўнасці, беларускай культуры. Спадзяюся, ён яшчэ прыйдзе да гэтага, і мова будзе гучаць не толькі з рэпрадуктараў грамадскага транспарту. Для мяне відавочна, што беларуская прастора істотна пашырылася. Колькі гадоў таму была пэўная мода на беларускую мову, і яе можна было пачуць ад незнаёмых людзей у кавярні, напрыклад. Я на асабістым досведзе пераканаўся, што беларуская мова прысутнічае ў беларусах на "генетычным" узроўні. Як і ўсе, я сутыкаўся з ёй хіба што падчас школьных заняткаў, а таксама ў бабулі ў вёсцы. Але варта мне было апынуцца па-за межамі рускай культуры, беларуская мова адразу пачала з мяне прарывацца вонкі. Хай нават і позна, але я адчуў у сабе беларускасць. Мне здаецца, трэба толькі крышачку недзе падштурхнуць, і па-беларуску тут пачнуць гаварыць усе.

**– А з якой прычыны Вы прынялі рашэнне з'ехаць у Канаду?**

– Аптымізм пачатку дзевяностых мяне вельмі захапіў, і сваім сябрам, якія пачалі з'язджаць за мяжу, я казаў, што рабіць, як яны, не буду. Але той аптымізм знік, калі знялі Пагоню з Дома ўраду. Ну а паколькі сябры ўжо былі "там", вырашылі паехаць у Канаду і мы. Уладкаваліся ў Атаве. Там пазнаёміліся з Старшынёй Рады БНР Івонкай Сурвіллай, і тая асаблівая мова, якую я ад яе пачуў, вельмі ўзрушыла мяне. Неўзабаве я і сам перайшоў на мову – як жыў у Мінску, прызнаюся, на ёй не размаўляў. Рускамоўная прастора знікла, але ў Атаве ў нас шмат сяброў, там ёсць суполка Згуртавання беларусаў Канады, яшчэ вялікая суполка ёсць у Таронта...

**– Вы з такой лёгкасцю распавядаеце пра сваё ўладкаванне ў Канадзе, што мне карціць запытацца пра Вашую прафесію.**

– Але яно сапраўды было лёгкім. Я скончыў Радыётэхнічны інстытут, факультэт аўтаматыкі і тэлемеханікі, працаваў. Мой калега збіраўся ехаць у Канадскую амбасаду падаваць анкету, я за кампанію запоўніў анкету таксама – і прыйшоў адказ, запрашэнне на інтэрв'ю. Я яго прайшоў – сам не ведаю як, бо з гутарковай мовай у мяне ўсё было кепска, а канадская ангельская, да ўсяго, моцна адрозніваецца ад амерыканскай ангельскай. Але тэхнічную мову я ведаў. Па прыездзе ўладкаваўся на працу, а ў англамоўным асяродку падцягнуў і гутарковую. Вось, уласна, і ўсё. Але я ўсё ж лічу, што нічога не бывае ў жыцці выпадкова.

**– Ці шмат людзей далучаецца да Вашай суполкі?**

– Увесь час на імпрэзах з'яўляюцца новыя людзі, але бывае, што прыходзяць толькі адзін раз – і на гэтым усё. Паводле перапісу ў Атаве беларусамі назвалася тысяча чалавек, але на мерапрыемствы ходзяць чалавек пяцьдзясят – затое моцна згуртаваных. За мяжой розніца паміж палякамі, рускімі, украінцамі і беларусамі адчуваецца істотна. Каб камфортна пачувацца, людзі, нават калі не гавораць па-беларуску, усё ж адчуваюць патрэбу быць беларусамі. Яшчэ пятнаццаць гадоў таму ад тых, хто прыехаў у Канаду з Мінску, можна было пачуць "мы из России" ці "мы русские". Цяпер такога няма. Хай Беларусь пакуль што рускамоўная, але яна мае сваю тэрыторыю і самаідэнтыфікацыя пакрысе адбываецца.



**– Моладзь беларускімі справамі цікавіцца?**

– Моладзі шмат у Таронта. Там ёсць беларуская царква, культурны цэнтр – памяшканне, дзе яны могуць сабрацца. Там ладзяцца святы, заняткі "Мова нанова", бацькі прыводзяць туды дзяцей... У іх большая актыўнасць. У нас да нядаўняга часу была суботняя беларуская школка, якую ладзілі бацькі старшыні Атаўскага аддзялення Згуртавання беларусаў Канады Пятра Мурзёнка.

**– Ці працей сёння беларусу трапіць у Канаду ў параўнанні з 1997 годам?**

– 200–300 тысяч эмігрантаў Канада па законе мусіць набіраць штогод, але цяпер шмат хто ў свеце хоча там жыць, і змяніліся патрабаванні да ахвочых прыехаць. Стала складаней. А праграмістаў стала прыязджаць менш, бо працаваць цяпер можна аддалена, а зарабляючы нават меншыя ў параўнанні з канадскімі заробкамі грошы, камфортна жыць і ў Беларусі.

**– У гэты прыезд Вы абмяркоўвалі выданне Вашага трэцяга паэтычнага зборніка. Ваша паэзія насычаная атмасферай мясцінаў, у якіх Вам давялося пабываць. Па вершах можна літаральна вывучаць геаграфію Еўропы і Амерыкі. Апынуўшыся ў згаданым Вамі месцы – прыслухацца да сваіх адчуванняў, параўнаць эмоцыі з выяўленымі ў паэзіі. Якім гарадам будзе прысвечаная новая кніга?**

– Гэта будуць вершы, якія нітуюць Мінск з горадам Атавай, у якім я жыву. Выдаць кнігу ў Канадзе – не праблема. Але для мяне вельмі важна, каб гэтыя кнігі былі выдадзеныя менавіта тут. Раней у Мінску выйшлі два мае паэтычныя зборнікі: "Шлях да вяртання" і "Атава".

**– А не думалі пісаць прозу?**

– Я часам пішу нататкі, замалёўкі. Пісаў апавяданні, аповесць. Але нікому пакуль што гэтага не паказваю. Я, калі шчыра, не лічу сябе прафесійным літаратарам – працую з тэхнікай, скончыў адпаведнае тэхнічнае ВНУ... Калісьці амаль што выпадкова даслаў некалькі вершаў у часопіс "Маладосць", і паэтка Віка Трэнас зацікавілася імі, падтрымала. Яна і кніжкі мае таксама, можна сказаць, "раскруціла". А я вырашыў, што раз ёсць хоць адзін чытач, то варта працягваць пісаць. А падчас публічных выступаў пабачыў, што цікавасць да беларускага слова, сапраўды, існуе. З таго часу друкаваўся ў часопісе "Дзеяслоў", у альманаху "Беларус", які выдаецца ў Нью-Ёрку, у газеце "Літаратура і мастацтва".

**– Я невыпадкова запытаўся пра змену формы творчасці. Даводзілася бачыць у інтэрнэце відэазапісы Вашых выступаў у суправаджэнні музычнага гурта, і я разважыў, што Вы маеце схільнасць да эксперыментаў.**

– У нашай суполцы ёсць дуэт "Кантабіле" – Улада Шамецька грае на скрыпцы і Міхась Рыкаў на гітары. Мы паспрабавалі выступаць разам, і выявілася, што вершы ў такой падачы добра ўспрымаюцца слухачамі. Мы выступалі ў Нью-Ёрку на святкаванні 25 сакавіка, цяпер запрашае Сяргей Раманюк у Кліўленд, можа неўзабаве паедзем у Таронта... А паколькі мы любім падарожнічаць, то як нас будуць запрашаць, дык мы з задавальненнем будзем ездзіць.

**– Што пажадаеце чытачам нашага бюлетэня на развітанне?**

– Сёння можна ўпэўнена казаць, што беларусы не страцілі Беларусь і не страцілі беларускасці. Сустрэўшы беларуса недзе ў свеце, можна адразу зразумець, што ён беларус, на якой бы мове ён ні гаварыў. Вось я і жадаю ўсім, хто лічыць сябе беларусам, гэтую беларускасць захоўваць і надалей. Гэта самае важнае.

*Гутарыў Сяргей Кандрацёнка, прэс-сакратар ЗБС "Бацькаўшчына"*

навіны

# Лена Глагоўская: НАЙВАЖНЕЙШАЕ – ГЭТА ЗГУРТАВАНАСЦЬ

25 гадоў таму ў Гданьску прайшоў устаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства "Хатка", якое дагэтуль аб'ядноўвае беларусаў.

23 траўня ў 1992 годзе паўстала асобная структура, якая і сёння аб'ядноўвае беларусаў Памор'я і актыўна працуе на ніве беларушчыны. Кажа беларуская дзеячка Лена Глагоўская: "За гэтыя 25 гадоў удалося шмат розных цікавых праектаў здзейсніць, якія зробленыя абсалютна на грамадскіх асновах. Хаця б тое, што ў Гданьску ёсць вуліца Дзекуця-Малея ці вуліца Янкі Брыля ў Гдыні, без таварыства гэтага не было б. Паставілі помнік «галубкоўцу» на могілках у Гневе".

Найважнейшае – гэта згуртаванасць сябраў таварыства, якое можна параўнаць з сям'ёй. Да прыкладу, Беларускае культурнае таварыства "Хатка" штогод ладзіць святкаванне ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі, канцэрты, літаратурныя імпрэзы і мастацкія вечарыны.




**Улад Грынеўскі, Беларускае Радыё Рацыя**

# У КАНАДЗЕ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ МІТРАПАЛІТА МІКАЛАЯ

28 траўня ў Беларускім грамадска-рэлігійным цэнтры горада Таронта адбылося ўшанаванне Мітрапаліта Мікалая з нагоды 100-годдзя (Аўтакефальная Праваслаўная Царква).




У залі сабраліся тыя, хто яго ведаў як святара, як чалавека, і хто стаяў побач з Уладыкам у справе прасоўвання Беларушчыны ў замежжы і на Бацькаўшчыне.

Са сталіцы Канады для ўдзелу ва ўрачыстасцях прыбылі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, сябры Атаўскага аддзела Згуртавання Беларусаў Канады на чале з Пётрам Мурзёнкам. З антарыйскага горада Бэры – Старшыня Каардынацыйнага Камітэта Беларусаў Канады доктар Руслан Качаткоў. Прысутнічалі таксама Першаіерарх БАПЦ Архіепіскап Паўночна-Амерыканскі і Навагардскі Святаслаў, Старшыня Галоўнае ўправы Згуртавання Беларусаў Канады Зміцер Эльяшэвіч, сябры ЗБК і парафіяне Царквы Св. Кірылы Тураўскага.

Святочны дзень пачаўся з ранішняга набажэнства ў Царкве Св. Кірылы Тураўскага пад кіраўніцтвам архіепіскапа Святаслава з удзелам айца Аўгена і госця з Украіны епіскапа Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Уладзімера, які прыбыў з Кіева на запрашэнне Кіраўніка БАПЦ адмыслова для ўдзелу ва ўрачыстасцях.

**Алесь Кот**

**Больш падрабязна чытайце на zbsb.org**

in memoriam

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ВІКТАРА ДАНІЛЕНКІ

Пайшоў з жыцця першы амбасадар Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі Віктар Даніленка.



Віктар Дзмітрыевіч Даніленка нарадзіўся 3 кастрычніка 1936 года ў вёсцы Петухоўка Магілёўскай вобласці ў сям'і сялян. У 1959 годзе скончыў будаўнічы факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута.

У траўні 1975 года быў прызначаны першым намеснікам старшыні Дзяржбуда БССР, а ў лютым 1976 года заняў пасаду міністра сельскага будаўніцтва рэспублікі. У 1980 годзе Віктар Дзмітрыевіч быў пераведзены ў Маскву для працы ў міністэрстве сельскага будаўніцтва СССР. Працаваў намеснікам, першым намеснікам, а ў 1982 годзе – міністрам сельскай будаўніцтва СССР. У 1985 годзе быў створаны Дзяржаграпрам СССР, у якім В.Д. Даніленка прызначаны на пасаду намесніка старшыні па капітальным будаўніцтве і рэканструкцыі ў рангу міністра СССР. Браў актыўны ўдзел у ліквідацыі наступстваў на Чарнобыльскай АС, землятрусу ў Арменіі.

Віктар Дзмітрыевіч не губляў сувязі з роднай рэспублікай, і калі яму прапанавалі пасаду пастаяннага прадстаўніка Савета Міністраў БССР пры Савеце Міністраў СССР, ён з радасцю згадзіўся.

На пачатку 1990-х Віктар Дзмітрыевіч стаў Надзвычайным і Паўнамоцным амбасадарам Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі.

Пасля заканчэння дыпламатычнай службы Віктар Даніленка займаў пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара ўпраўлення па праектаванні грамадскіх будынкаў і збудаванняў "Моспраект-2".

Пасля сыходу на пенсію Віктар Дзмітрыевіч Даніленка браў удзел у грамадскім жыцці горада Масквы: быў сябрам клуба міністраў СССР і сябрам Рады Нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы". За шматгадовую працу быў узнагароджаны двума ордэнамі Працоўнага чырвонага сцяга, ордэнам Дружбы народаў, медалём Францыска Скарыны і шматлікімі медалямі.

Пахаваны В.Д. Даніленка на Траякураўскіх могілках у Маскве.

Светлай яму памяці.

**Паводле А. Глода, сябра Рады НКА "Беларусы Масквы"**

## Беларускі каляндар памятных дат на чэрвень 2017 года

4 чэрвеня – 170 гадоў таму, у 1847-м, памёр Стафан Грабоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.

4 чэрвеня – 65 гадоў таму, у 1952-м, памёр Язэп Варонка, журналіст, дзеяч эміграцыі ў ЗША, першы прэм'ер-міністр Беларускай Народнай Рэспублікі.

6 чэрвеня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памёр Язэп Малецкі, медык, педагог дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

10 чэрвеня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памёр Ян Садоўскі, навуковец, скарыназнавец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Канадзе.

11 чэрвеня – 35 гадоў таму, у 1982-м, памёр Рыгор Семашкевіч, паэт, празаік, літаратуразнавец, крытык.

13 чэрвеня – 150 гадоў таму, у 1867-м, нарадзіўся Мітрафан Доўнар-Запольскі, гісторык, эканаміст, этнограф.

13 чэрвеня – 140 гадоў таму, у 1877-м, нарадзіўся Мікалай Багародскі, гісторык.

14 чэрвеня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Анатоль Сумны (сапр. Кунцэвіч), паэт, святар, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

15 чэрвеня – 115 гадоў таму, у 1905-м, нарадзіўся Юрка Віцьбіч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

16 чэрвеня – 120 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Аляксандр Шлюбскі, літаратуразнавец, этнограф, бібліёграф.

18 чэрвеня – 80 гадоў таму, у 1937-м, памёр Аляксей Бялыніцкі-Біруля, заолаг, падарожнік.

18 чэрвеня – 60 гадоў таму, у 1957-м, памёр Вітольд Бялыніцкі-Біруля, мастак.

19 чэрвеня – 105 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пятро Бітэль, пісьменнік, перакладчык, праваслаўны святар.

19 чэрвеня – 25 гадоў таму, у 1992-м, памёр Валерый Слюнчанка, гісторык.

21 чэрвеня – 50 гадоў таму, у 1976-м, памёр Фелікс Стацкевіч, грамадска-культурны дзеяч, выдавец.

23 чэрвеня – 70 гадоў таму, у 1947-м, памёр Уладзімір Пічэта, гісторык, першы рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

24 чэрвеня – 250 гадоў таму, у 1767-м, нарадзіўся Стафан Грабоўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г.

24 чэрвеня – 240 гадоў таму, у 1777-м, нарадзіўся Ян Ходзька, пісьменнік, грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1830–1831 гг.

26 чэрвеня – 120 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Лявон Савёнак, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

28 чэрвеня – 85 гадоў таму, у 1932-м, нарадзіўся Пётр Марціноўскі, краязнавец, літаратуразнавец.

28 чэрвеня – 75 гадоў таму памёр Янка Купала, народны паэт Беларусі.

**Беларусы ў свеце**
No 5 (180), травень 2017
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27